№ 115 (1678)

Чацвер , 26 чэрвеня 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

**27 чэрвеня — планавы нявыхад «Народнай волі». Наступны нумар газеты выйдзе 28 чэрвеня.**

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +16...+18, дождж, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +15...+17, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +17...+19, уначы — +11...+13, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +18...+20, кароткачасовы дождж, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +15...+17, дождж, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +17...+19, кароткачасовы дождж, уначы — +12...+14, без ападкаў.

*www.meteo.by*



# Васіль Уладзіміравіч БЫКАЎ

## пайшоў у сваю дывізію, у родную зямлю, у вечную памяць. У апошні шлях народнага пісьменніка, апостала і заступніка Айчыны правяла ўся Беларусь

## Памяці Васіля Быкава

Чорная дата 22 чэрвеня 1941 года прайшла праз жыццё і ўсю творчасць Васіля Быкава. Мусіць, самім лёсам яму было наканавана выжыць пасля двух раненняў і аднаго пахавання, каб сказаць тое, чаго яшчэ ніхто не гаварыў: вайна — гэта абсалютнае зло і агульначалавечая трагедыя.

Праз 62 гады 22 чэрвеня чорнай датай стала для Беларусі яшчэ раз — спынілася сэрца салдата-акопніка і патрыёта, вялікага пісьменніка і грамадзяніна Васіля Уладзіміравіча Быкава.

Беларуская літаратура панесла найвялікшую і непапраўную страту. Васіль Быкаў быў не проста літаратарам сусветнага маштабу, ён быў сумленнем нацыі, вялікім сынам Беларусі. Па творах Быкава ведалі і меркавалі пра Беларусь ва ўсім свеце.

Творы Васіля Быкава — знакамітыя аповесці "Жураўліны крык", "Трэцяя ракета", "Альпійская балада", "Дажыць да світання", "Сотнікаў", "Мёртвым не баліць", "Пайсці і не вярнуцца", "Круглянскі мост", "Знак бяды" — перакладзены на дзесяткі моваў свету. Ён стаў класікам пры жыцці, зведаў і славу, і беспрэцэдэнтнае цкаванне і ганьбаванне. Але да сваёй славы, шматлікіх заслужаных узнагарод ён ставіўся спакойна, з пэўнай доляй іроніі, на брудныя наскокі стараўся не рэагаваць, хоць яны атручвалі ягонае жыццё. Дзіўным чынам у ім ужывалася цвёрдасць і бескампраміснасць у адстойванні прынцыпаў справядлівасці і праўды з мяккасцю характару, выключнай далікатнасцю і тактам у адносінах з людзьмі.

Маючы бездакорны маральны аўтарытэт, мудрасць прарока, ён гаварыў тое, што хацеў, ацэньваў падзеі і людзей паводле сваіх найвышэйшых маральных і грамадзянскіх прынцыпаў. Улады лічылі, што такое права дадзена толькі ім, і таму ў Быкава заўсёды складваліся з імі няпростыя адносіны.

У Васіля Уладзіміравіча былі вялікія творчыя планы. Ён разумеў немагчымасць здзейсніць задуманае на Радзіме, дзе ўсчалася новая хваля шальмавання, і на пяць гадоў вымушаны быў пасяліцца за мяжой, дзе цалкам прысвяціў сябе творчай працы, напісаў некалькі кніг аповесцяў, прыпавесцяў, апавяданняў. У іх — новы і часам нязвыклы Быкаў. Творы апошняга перыяду чакаюць свайго даследчыка, свайго прачытання. Падсумаваў сваё творчае і зямное жыццё Васіль Уладзіміравіч мемуарнай кнігай "Доўгая дарога дадому", якую, ужо знаходзячыся на бальнічным ложку пасля цяжкай аперацыі, паспеў патрымаць у руках.

Ён вярнуўся на Радзіму — да родных, сяброў, на бацькоўскую зямлю, каб назаўсёды спачыць у ёй.

Хай будзе пухам Вам родная зямля, дарагі Васіль Уладзіміравіч!

Вы навекі застанецеся ў светлай памяці Бацькаўшчыны.

**Янка БРЫЛЬ,
Рыгор БАРАДУЛІН,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Іван НАВУМЕНКА,
Іван ШАМЯКІН,
Эдуард АКУЛІН,
Уладзімір АРЛОЎ,
Данута БІЧЭЛЬ,
Валянцін БЛАКІТ,
Генадзь БУРАЎКІН,
Анатоль ВЯРЦІНСКІ,
Юрка ГОЛУБ,
Уладзімір ДУКТАЎ,
Алесь ЖУК,
Сяргей ЗАКОННІКАЎ,
Васіль ЗУЁНАК,
Вольга ІПАТАВА,
Віктар КАЗЬКО,
Віктар КАРАМАЗАЎ,
Алесь КАСКО,
Анатоль КУДРАВЕЦ,
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ,
Алесь ПАШКЕВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ,
Франц СІЎКО,
Міхась СКОБЛА,
Валянцін ТАРАС,
Васіль ТКАЧОЎ.**







## Народнага пісьменніка і салдата Айчыны праводзілі ў апошні шлях на руках

*За дзень да пахавання Васіля Уладзіміравіча Быкава ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў не ведалі: ці дазволяць пранесці на руках труну з целам пісьменніка ад плошчы Перамогі да плошчы Якуба Коласа? На ранішнім пасяджэнні ўрадавай камісіі па арганізацыі пахавання было прынята рашэнне, што не: маўляў, "немэтазгодна".*

— Когда хоронили Петра Машерова, его гроб тоже запретили нести на руках, — аргументаваў, прыехаўшы ў Саюз, член вышэйназванай урадавай камісіі, старшыня Беларускага літаратурнага фонду і старшыня Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Нацыянальнага схода Беларусі Мікалай Чаргінец.

Праўда, Мікалай Іванавіч не ўдакладніў, хто тады забараняў і хто забараняе зараз. І няўжо няўцям, што людзі хацелі не арганізоўваць нейкае несанкцыянаванае шэсце, як падавалі ўлады, а па-чалавечы, па народных традыцыях, шчыра аддаць даніну любові і павагі сапраўды любімаму і паважанаму чалавеку, сапраўды **НАРОДНАМУ** пісьменніку?

Увечары на дадатковыя перамовы са старшынёй урадавай камісіі Леанідам Гулякам адправіліся Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў і старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч. І зноў-такі прыехалі ні з чым — улады ўсё ж палічылі, што "антипрезидентского шествия не будет".

Учора народ ля Дома літаратара пачаў збірацца ўжо каля 9 гадзін раніцы, хоць на развітанне ў залу пачалі пускаць толькі з 10.00. На службовым уваходзе хлопцы ў скураных куртках дазвалялі ўваход толькі па загадзя складзеным спісе.

Перад адпяваннем труну завярнулі ў бел-чырвона-белы сцяг, які спадар Чаргінец паспрабаваў "ликвидировать". Апошняму прыстойна растлумачылі, што гэта воля нябожчыка і яго жонкі Ірыны Міхайлаўны, пасля чаго Чаргінец, напэўна, пакрыўдзіўся і з'ехаў. Пасля адпявання выступіў і старшыня ўрадавай камісіі па арганізацыі пахавання міністр культуры Леанід Гуляка, які заявіў, што ён як дзяржаўны чалавек пад такой сімволікай прымаць удзел у пахаванні не будзе, весці паніхіду, як планавалася раней, адмаўляецца. І таксама рэціраваўся.

Прынеслі вянок ад прэзідэнта Беларусі, які па ўважлівай прычыне развітацца з Народным пісьменнікам не змог — адправіўся ў планавую паездку па Гомельскай вобласці. Праўда, ужо праз некалькі хвілін той вянок ад кіраўніка дзяржавы накрылі кветкі ад простых людзей. Хоць прадстаўнікі спецслужб раз-пораз "вызвалялі" яго, каб ён усё ж быў бачны для тэлекамер.

Паніхіду планавалася пачаць у 13.00, аднак жадаючых развітацца з Васілём Уладзіміравічам было так шмат (чарга пачыналася яшчэ ля метро), што яе пачатак адклалі на гадзіну пазней.

Прыкладна ў гэты час старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч абвясціў журналістам, што ўлады наогул адкрыжаваліся ад правядзення пахавання, а з прадстаўнікамі Мінгарвыканкама дамоўлена, што можна будзе пранесці труну з Васілём Быкавым ад плошчы Перамогі да плошчы Якуба Коласа.

Народ адваяваў права годна правесці ў апошні шлях свайго па-сапраўднаму Народнага пісьменніка Васіля Уладзіміравіча Быкава...

Шкада, што ў сённяшнім нумары мы не можам расказаць пра апошнія хвіліны развітання беларускага народа з Васілём Уладзіміравічам Быкавым. Паколькі "Народная воля" па злой волі ўлад вось ужо каторы год друкуецца не ў спецыялізаваным выдавецтве "Беларускі Дом друку", а ў маламагутнай "Чырвонай зорцы", то трэба тэрмінова здаваць нумар у работу. Але да тэмы развітання з дарагім і любімым для кожнага беларуса чалавекам мы яшчэ вернемся ў наступным нумары.

**Алесь СІВЫ.**
**Фота Алеся СІЛІЧА.**

## Дзякуй, Васіль Уладзіміравіч, што паказаў нам шлях

Васіль Быкаў стаіць у шэрагу славутых сыноў Бацькаўшчыны: Купала, Колас, Багдановіч... І ён. Можа, яму пашчасціць сустрэць на нябёсах гэтых **сапраўдных** змагароў Беларусі. Так Васіль Быкаў і не дачакаўся перамогі... Сапраўднай перамогі сваёй Радзімы. Гэта наша ганьба. Дзякуй Богу, вярнуўся на Радзіму.

Пайшоў ад нас яшчэ адзін велічны Беларус, які навучыў нас, маладых хлопцаў і дзяўчат, любіць і шанаваць Радзіму. Пайшоў, не пабачыўшы на нашых тварах сапраўднай усмешкі шчасця...

Дзякуй Богу, ёсць памяць. Мы не забудзем Васіля Быкава, якую б ідэалогію нам ні ціснулі ў галаву...

Дзякуй, Васіль Уладзіміравіч, за тое, што правёў жыццё такім чынам, што зараз мы можам толькі ганарыцца тым, што з'яўляемся вашымі суайчыннікамі...

**З юнацкім сэрцам і павагай —**

**Юрась БУСЕЛ, 17 год.**

## «У яго была абсалютная, паталагічная сумленнасць...»

"Гэта ганьба для маладой дзяржавы, якая валодала такім гонарам сусветнага маштабу, як Васіль Быкаў, што з-за канфлікту з беларускай уладай пісьменнік вымушаны быў жыць за мяжой", — такое меркаванне выказаў у інтэрв'ю БелаПАН вядомы рускі пісьменнік, прэзідэнт расійскага ПЕН-цэнтра Андрэй Бітаў.

Паводле слоў Бітава, сяброўства якога з Васілём Быкавым пачалося ў 1980 годзе, галоўнай чалавечай якасцю пісьменніка была "абсалютная, паталагічная сумленнасць". "Быкаў упісаны ў сусветную літаратуру назаўсёды, навечна, і ні з кім не параўнальны. Ён найлепшы пісьменнік аб самай важнай падзеі рускай і беларускай гісторыі XX стагоддзя — вайне, — сказаў А.Бітаў. — Мы даўно лічым яго за рускага пісьменніка, бо рускі і беларускі народы роўна пацярпелі ад гэтай вайны".

На думку Бітава, Быкаў "перамог яшчэ ў сістэме СССР пры ўсіх забаронах на яго творы, аднак яго сумленнасць не падыходзіла для новага часу, менш страшнага, але больш ганебнага, які адбіўся на Быкаве вельмі жорстка".

Вяртанне Васіля Быкава ў Беларусь перад смерцю Бітаў лічыць "асабістым учынкам" пісьменніка, які "правёў сваю лінію да канца".

Расійскі ПЕН-цэнтр накіраваў спачуванні родным Быкава, аднак сам Бітаў, які цяжка хворы, не змог прыехаць на пахаванне.

**Даведка БелаПАН.** Андрэй Георгіевіч Бітаў нарадзіўся ў 1937 годзе. Аўтар зборніка апавяданняў "Аптекарский остров" (1969), аповесці "Человек в пейзаже" (1987), раманаў "Улетающий Монахов" (1990) і "Пушкинский дом" (1978), а таксама іншых твораў, дзе ўзноўлены духоўны воблік і псіхалогія розных пакаленняў рускіх інтэлігентаў. У якасці акцёра сыграў адну з галоўных роляў у фільме "Чужая белая и рябой" (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі (1992).

**Лавінія АРЭШКА,**
**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Комментарий
### Посольства США по поводу высказывания Центризбиркома Беларуси

Недавно Центральная избирательная комиссия Беларуси выступила с высказыванием о том, что Конгресс Соединенных Штатов якобы продлил срок полномочий Президента Франклина Рузвельта. Это абсолютно не соответствует действительности. Президент Рузвельт был конституционно избран на четыре срока подряд и занимал эту должность с 1933 по 1945 год.

В первоначальной редакции Конституции Соединенных Штатов не содержалось ограничения на количество президентских сроков. В 1951 году штатами была принята конституционная поправка, которая не продлевала, а, напротив, ограничивала пребывание президента у власти до двух сроков. Ни один из американских президентов никогда не увеличивал срок своих полномочий за рамки избирательного мандата, а с 1951 года ни один президент не имеет права находиться в этой должности более двух сроков. Очень жаль, что Центральная избирательная комиссия Беларуси прибегает к искажению американской истории в попытке оправдать продление полномочий существующего режима.

*Минск, 25 июня 2003 г.*

## У Заслаўі атруціліся чадным газам

*Чатыры чалавекі, якія атрымалі смяротную дозу чаднага газу, знойдзены ратавальнікамі ў адной з кватэр жылога дома ў Заслаўі.*

Як паведаміла прэс-служба МНС, каля 7 гадзін раніцы ў пажарную аварыйна-ратавальную частку Заслаўя звярнуліся жыхары дома па вуліцы Вільямскай і паведамілі, што ў адной з кватэр імі знойдзены трупы чатырох чалавек — гаспадара кватэры, двух яго сяброў і жанчыны. Пасля прыбыцця ратавальнікаў было ўстаноўлена, што ўсе чацвёра атруціліся чадным газам, а смерць, паводле папярэдняй інфармацыі, наступіла яшчэ ўчора.

У кватэры, дзе знаходзіліся загінуўшыя, з вечара была ўключана газавая пліта і газавая калонка для падагрэву вады. Выцяжка амаль не працавала, а ўсе вокны былі зачыненыя, таму ў кватэры ўтварылася занадта вялікая канцэнтрацыя чаднага газу. Відаць, гаспадар кватэры і яго госці спалі і атрымалі смяротную дозу чаднага газу ў сне.

Сёння раніцай пагоршылася самаадчуванне суседзяў, у першую чаргу дзяцей. Пасля таго як чадны газ пачаў падымацца ў кватэру верхняга паверха, дзе стала ненатуральна цяпло, жыхары дома вырашылі праверыць гэтую кватэру, дзе і былі знойдзены трупы.

Два гады таму ў гэтай жа кватэры пры падобных абставінах загінулі чатыры чалавекі — чадным газам атруціліся дзве жанчыны і двое дзяцей.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

**СПАСИБО!**

## У Детского хирургического центра — лучшие в мире друзья

*С 24 по 30 июня в Минске находится делегация германской гуманитарной организации "Помощь для детской клиники Минска" под руководством господина Удо Влока, сотрудника Государственной канцелярии премьер-министра земли Северный Рейн-Вестфалия.*

Целью поездки является очередное оказание помощи Детскому хирургическому центру 1-й городской больницы Минска, с которым земля Северный Рейн-Вестфалия поддерживает тесные отношения уже в течение многих лет. Делегация привезла с собой расходный медицинский материал, в частности, катетеры для сердца, и занимается вопросами обслуживания и ремонта медицинской техники. Стоимость этой поставки гуманитарной помощи составляет более 80.000 евро.

Объединение "Помощь для детской клиники Минска" под председательством бывшего министра внутренних дел земли Северный Рейн-Вестфалия д-ра Херберта Шноора осуществляет свою деятельность в Минске уже с 1991 года. За это время в Беларусь были доставлены грузы гуманитарной помощи стоимостью более 10 миллионов евро. Главное внимание в работе уделяется обеспечению Детского хирургического центра 1-й городской больницы Минска медицинскими диагностическими приборами, медикаментами и расходным материалом, а также обучению специалистов работе с комплексной медицинской техникой. Наряду с пожертвованиями из всей Германии немалую часть средств для этой помощи предоставило правительство земли Северный Рейн-Вестфалия.

Господин Влока особым образом связан с Беларусью и ее людьми. В прошлом году за свою активную деятельность он был награжден орденом Франциска Скорины.

# В национальных ли интересах переходить на российский рубль?

Станислав БОГДАНКЕВИЧ, профессор



Межгосударственным Соглашением о введении единой денежной единицы и формировании единого эмиссионного центра и Соглашением между правительствами и центральными банками Беларуси и России о мерах по созданию условий для введения единой денежной единицы от 30 ноября 2000г. предусмотрено, что с 2005-го по 2008 год роль единой валюты будет выполнять российский рубль, и лишь с 2008 года предусматривается переход на так называемую союзную валюту. В настоящее время центральными банками и правительствами сторон прорабатывается вопрос о конкретном механизме перехода с 1 января 2005 г. на рубль Российской Федерации.

По моему глубокому убеждению, *Беларусь должна, пока не поздно, отказаться от этой идеи как не соответствующей нашим национальным интересам.* И не только из-за ее несовместимости с Конституцией. Просто в этом шаге для нашей страны нет ни политической, ни экономической выгоды, имеются лишь финансовые и иные риски. Еще у всех в памяти обвал стоимости российского рубля в 1998 году. Для Беларуси, если бы в то время мы пользовались российской валютой, это означало бы национальную катастрофу. Повторение в России подобного дефолта не исключено из-за возможного падения цен на энергоносители на мировом рынке либо какой-либо техногенной катастрофы в энергетической области и огромной внешней задолженности. С позиции здравого смысла Россия ни в политическом, ни в экономическом, ни в военном отношениях не является тем партнером, объединение с которым в единое государство было бы оправдано высшими интересами белорусского народа. Между тем отказ от собственного эмиссионного центра и переход на российскую валюту означает существенный шаг в направлении, ставящем под угрозу национальный суверенитет. Это отнюдь не означает отказ от политики теснейшего экономического, политического, культурного и иного сотрудничества с Россией и ее великим народом. Мне представляется, что наиболее правильным для белорусов выбором на ближайшие 15—20 лет является отказ от вступления в какие-либо политико-экономико-военные союзы как на Востоке, так и на Западе — в условиях теснейшей экономической интеграции по обоим направлениям, заключения как с Россией и Украиной, так и с ЕС режима свободной торговли.

Под интеграцией понимается создание общего экономического пространства с едиными для субъектов хозяйствования правилами игры, с согласованными параметрами макроэкономической, монетарной, налоговой, ценовой и торговой политики. Взаимовыгодное сотрудничество с Россией возможно только, если Россия и Беларусь будут сторонниками демократии, открытости, защиты частной собственности, свободной торговли и равных условий конкуренции.

Предпосылкой для успешного проведения системных экономических реформ и интеграции является трансформация политической системы Беларуси в направлении демократии и прав человека, соблюдения принципа разделения властей и независимости судебной власти. Вместе с тем неприемлемы политические спекуляции на тему интеграции. Взаимные обвинения в том, что одна страна живет за счет другой, что одна страна дискриминирует производителей другой, опасны для развития взаимовыгодных добрососедских отношений между нашими народами. Интеграции Беларуси и России необходимо придать новое, общеевропейское направление. Беларусь и Россия должны взять на себя ответственность строить единый европейский дом. В основе нашей интеграции с Россией должны лежать принципы, на которых базируется Европейский Союз. Открытой стратегической целью нашей страны, как и России, должно стать полноправное членство в Европейском Союзе. В валютной сфере нам следует ориентироваться на евро. Граждане Беларуси и России должны стать полноправными участниками единой Европы — без административных, правовых и экономических границ.

Нам следовало бы принять известное предложение президента Путина и осуществить ревизию всех подписанных между Россией и Беларусью договоров и сформированных учреждений. Вместо скоропалительного таможенного союза, которого в реальности не существует, вначале необходимо построить классическую зону свободной торговли между нашими государствами, в рамках которой предусмотреть отмену всех (либо почти всех) мер тарифного и нетарифного регулирования, отказаться от административного регулирования цен на товары и услуги, перемещаемые через границу. С целью противодействия контрабанде и упорядочения торговли товарами из третьих стран, а также в рамках подготовки к вступлению в ВТО необходимо восстановление таможенной границы. Вместе с тем целесообразно продолжать синхронизацию параметров монетарной политики, уровня инфляции, девальвации, режима контроля операций по текущему и капитальному счету и т.д.

Нельзя закрывать глаза на то, что внутриэкономическое положение России неустойчиво, базируется на нестабильных ценах на энергоносители, имеет огромную внешнюю задолженность, многократно превышающую относительную величину госдолга Беларуси. Производительность труда, качество товаров и их конкурентоспособность невелики. ВВП РФ составляет где-то немногим более 1% к общемировому уровню. По уровню национального дохода на душу населения Россия сегодня отстает почти в два раза даже от соседней Польши. Уровень жизни большинства российского населения низок, на грани нищеты. Коррупция — существенно выше, чем в Беларуси, является одной из самых высоких в мире. На ее базе и в связи с переделом собственности имеют место постоянные кровавые разборки. Из страны продолжает убегать капитал, инвестиции незначительны. Страна находится в состоянии варварской войны в Чечне, конца которой не видно. Многие регионы сотрясают энергетические кризисы, кризисы неплатежей. Страну захлестнул террор. Ослабленная экономика не в состоянии поддерживать былую военную мощь, что делает армию нестабильной, потенциально способной на авантюры. Сохраняется риск прихода к власти антидемократических сил, ностальгирующих по империалистическому прошлому. Сегодняшняя РФ — далеко не правовое государство. Свободы и права человека в ней в должной мере не обеспечены, уровень развития демократии и гражданского общества низок.

С другой стороны, финансовое положение более половины субъектов хозяйствования Беларуси катастрофическое. К примеру, размер капитала, отвлеченного из оборота субъектов хозяйствования в нереализованные остатки готовой продукции и дебиторскую задолженность, превышает 5 млрд. долларов США. Низкий уровень банкротства и безработицы объясняется главным образом системой льготного кредитования. В этих условиях отказ белорусского государства от собственного кредитно-эмиссионного центра — крайне рискованный шаг во всех отношениях.

Российский рубль является лишь ограниченно конвертируемым. Для проведения расчетов по внешнеторговым операциям переход на российский рубль никаких преимуществ нам не принесет, так как не является мировой общепризнанной валютой. Ее невозможно использовать для платежей на свободном рынке. Лишь на российском рынке, в расчетах за импортируемые из России энергоносители, сырье и товары ею можно будет пользоваться непосредственно. Однако для этого нет необходимости переходить на российский рубль, отказываться от национального суверенитета, изменять Конституцию. Уже сегодня значительная часть платежей по импорту из России осуществляется российскими рублями. Для расширения использования российских рублей по белорусско-российским экспортно-импортным поставкам достаточно договориться с российской стороной об определении цен в рублях (а не в долларах США или евро) и, возможно, заключить дополнительное соглашение между центральными банками наших стран. Отказ от национальной денежной единицы в пользу российского рубля, от суверенного права на денежно-кредитную эмиссию, от курсообразования и от процентной политики означает отказ от проведения самостоятельной экономической политики. Кто заинтересован в том, чтобы сосед, а не мы сами, контролировал наши финансы и нашу экономику?!

Не следует питать несбыточных иллюзий. Тезис создания единого Союзного государства при сохранении суверенитетов и равноправия Беларуси и России изначально абсурден, вне зависимости от того, на каких принципах произошло бы объединение. Сохранение суверенитета Беларуси при объединении на принципах Евросоюза практически недостижимо из-за того, что "экономический вес" Беларуси почти в 20 раз легче России. Разумеется, Россия никогда не пойдет на соблюдение принципа равноправия. И об этом свидетельствует согласованный правительствами и центральными банками сторон проект перехода Беларуси на российскую валюту, из которого однозначно следует, что монетарная политика, как и вопросы курсообразования, с момента перехода на российский рубль будет осуществляться Российским центральным банком. Причем, если бы речь шла о вхождении Беларуси в состав Российской Федерации в качестве ее субъекта, этот проект можно было бы считать оптимальным. Предусматривается, что Беларуси будут устанавливаться российским центром вполне приемлемые лимиты по эмиссии, на содержание аппарата, капиталовложения Национального банка и другие льготные условия. Однако о равенстве сторон здесь говорить не приходится.

В силу ряда объективных и субъективных причин национальный частный капитал в Беларуси оказался несформированным. Стратегические инвесторы из дальнего зарубежья из-за задержки со структурной перестройкой оказались на рынках других трансформирующихся стран. Все это в совокупности, в условиях валютной интеграции с Россией, приведет к практически полной утрате белорусами собственности, ее переходу в собственность нецивилизованного олигархического российского капитала, обвальному росту банкротств и безработицы.

Не выдерживает критики тезис о том, что в последующем равенстве в определении и проведении монетарной политики будет восстановлено посредством создания в 2008 г. так называемого союзного эмиссионного центра и перехода от российского рубля на общую союзную валюту. Очевидна иллюзорность таких предположений. У России после введения на территории Беларуси российского рубля не осталось бы никаких стимулов для такого шага, тем более, если вспомнить о таких реалиях, как несопоставимость экономических весов объединяющихся государств.

Активы и пассивы резидентов и нерезидентов РБ при объединении должны будут конвертироваться в российские рубли по рыночному курсу. Между тем, по оценке НБ РБ, рыночный курс белорусского рубля фактически ниже паритета его покупательной способности примерно в 1,6 раза. Обмен по рыночному курсу приведет к существенным потерям для экономики, населения и бюджета страны. С другой стороны, переоценка активов по паритету сделала бы нашу экономику, ввиду переоценки ее активов по завышенному (против рыночного) курсу, еще более неконкурентоспособной.

Единовременный перевод белорусских банков в режим функционирования в условиях рыночной конкуренции с более мощными российскими банками приведет наиболее крупные из них, финансирующие государственные программы и промышленные гиганты, к неминуемому банкротству либо поглощению российскими банками. Параллельно с этим будет происходить банкротство тех предприятий, которые искусственно держались на плаву благодаря правительственной и банковской поддержке.

Альтернативой введению российского рубля может стать жесткая привязка к нему белорусского. Хотя сам якорь — российский рубль — из-за своей несамодостаточности вынужден привязываться к доллару США либо евро, что является еще одним подтверждением его ненадежности.

Вместе с тем жесткая привязка белорусского рубля к российскому в нынешних условиях может оказаться полезной. Сохранив возможность внесения необходимых корректив в такую привязку, в зависимости от конкретной ситуации, в экономическом развитии и даже полную, при необходимости, "отвязку", Беларусь по существу перейдет на российский рубль, сохранив свои национальные одежды. И лишь по истечении 5—10 лет, которые необходимы для полной унификации белорусских условий хозяйствования с российскими, с учетом накопленного опыта и развития ситуации, можно было бы вернуться к монетарному вопросу. В нынешних условиях на жесткой привязке белорусского рубля к российскому Беларуси следовало бы и остановиться.

Другой возможной альтернативой является полная либерализация белорусского валютного рынка — решение о свободном использовании субъектами хозяйствования и домашними хозяйствами во внутреннем обороте наряду с белорусским рублем российской валюты, а также евро и доллара США. Экономика сама выберет себе наиболее выгодную валюту. Такое решение не требует внесения каких-либо изменений в действующую Конституцию.

ПУЛЬС

## У Мінску затрымалі ўдзельнікаў акцыі «Я люблю ліцэй!»

Супрацоўнікамі міліцыі было затрымана некалькі ўдзельнікаў акцыі "Я люблю ліцэй", арганізаванай 24 чэрвеня навучэнцамі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа і іх бацькамі.

У акцыі, якая пачалася ў 17.00 на пл. Якуба Коласа, узялі ўдзел каля 70 чалавек. Удзельнікі трымалі ў руках плакаты "Я люблю ліцэй!" на 15 мовах, а таксама геаграфічныя і гістарычныя карты. Несанкцыянаваная акцыя працягвалася каля 20 хвілін, пасля чаго прадстаўнікі міліцыі пачалі затрымліваць удзельнікаў.

Затрымалі і даставілі ў Савецкі РУУС Мінска трох чалавек. Сярод іх — намеснік дырэктара ліцэя Лявон Баршчэўскі і журналіст газеты "Наша Ніва" Зміцер Дзядзенка. Каля 18.00 усіх трох выпусцілі без складання пратакола.

Нагадаем, што пікеты навучэнцаў ліцэя пачаліся 19 чэрвеня. У гэты дзень каля 200 чалавек выйшлі на Кастрычніцкую плошчу сталіцы. Раней гарадскія ўлады не дазволілі бацькам правядзенне пікетаў у абарону ліцэя ля будынка Міністэрства адукацыі на плошчы Незалежнасці і ў Міхайлаўскім скверы сталіцы. Заяўнікам было прапанавана арганізаваць пікеты з удзелам не больш як 15 чалавек у парку Дружбы народаў каля плошчы Бангалор 19—21 і 23—27 чэрвеня з 16.00 да 18.30. Аднак бацькі і навучэнцы ўспрынялі гэтую прапанову улад Мінска як цынічную.

**Аляксей ШЭІН.**

## Лідэры беларускай дыяспары правялі шэраг спатканняў у Вашынгтоне

Як паведаміў па тэлефоне з Вашынгтона Зянон Пазьняк, восем прадстаўнікоў беларускіх амерыканскіх арганізацый правялі плённыя сустрэчы з амерыканскімі палітыкамі. Закраналіся пытанні аб пагрозе незалежнасці Беларусі, аб гарантыях беларускай незалежнасці, аб Акце аб дэмакратыі ў Беларусі, які будзе пастаўлены на галасаванне ў Кангрэсе. Таксама было пастаўлена пытанне аб дыскрымінацыі беларусаў у сувязі з выдачай іміграцыйных дакументаў.

Прайшлі таксама сустрэчы ў Дзярждэпартаменце ЗША.

**Ул. інф.**

## Прафсаюз дабіўся павелічэння заробку

**Адміністрацыя ААТ "Гродна Азот" прыняла рашэнне аб павелічэнні на 20 працэнтаў тарыфнай стаўкі першага разраду, якая з'яўляецца базай пры налічэнні заробкаў. Сяргей Антусевіч, старшыня пярвічнай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза, перакананы, што гэта вынік дзейнасці яго арганізацыі.**

Нагадаем, што пярвічная арганізацыя Беларускага незалежнага прафсаюза звярнулася да кіраўніка канцэрна "Белнафтахім" Івана Бамбізы з патрабаваннем павялічыць заробкі працоўным ААТ "Гродна Азот". Тэкст звароту быў прыняты на агульным пасяджэнні сяброў прафсаюза.

На мінулым тыдні "Гродна Азот" наведаў працоўны арбітр па Гродзенскай вобласці Вячаслаў Сіўцоў. Ён сустрэўся з адміністрацыяй прадпрыемства і з прадстаўнікамі прафсаюза. "Яго цікавіла наяўнасць сацыяльнага напружання на прадпрыемстве ў сувязі з інфармацыямі СМІ аб патрабаванні працоўнымі павелічэння заробку. Пасля яго візіту адміністрацыя і прыняла рашэнне аб павялічэнні тарыфнай стаўкі першага разраду. Для мяне зразумела, што гэта звязана з нашым зваротам да кіраўніцтва "Белнафтахіму", — сказаў карэспандэнту "Народнай волі" Сяргей Антусевіч, старшыня пярвічнай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза.

З гэтым не згодныя прадстаўнікі адміністрацыі "Гродна Азот". "Так, мы прынялі рашэнне аб павелічэнні тарыфнай стаўкі першага разраду. Але я не лічу, што гэта вынік дзейнасці прафсаюза. Была адменена інструкцыя аб рэгуляванні павелічэння заробку для працоўных, якая звязвала яго павелічэнне з ростам аб'ёму прадукцыі. Менавіта гэта дазволіла нам прыняць адпаведнае рашэнне", - сказала Таццяна Курганава, начальнік аддзела працы зарплаты ААТ "Гродна Азот".

Апошняе павелічэнне заробку на прадпрыемстве адбылося больш за год таму.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## С.Сідорскі: «Белтрансгаз» каштуе 4,5—5 мільярдаў долараў ЗША

ААТ "Белтрансгаз" каштуе 4,5—5 мільярдаў долараў, паведаміў першы віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Сяргей Сідорскі пасля заканчэння нарады па пытанні стварэння сумеснай беларуска-расійскай газатранспартнай арганізацыі ў форме акцыянернага таварыства.

"Акцыі "Белтрансгазу" ацэнены па рыначнай цане. Па нашым заключэнні, якое праведзена ў адпаведнасці з тымі методыкамі, што існуюць сёння і ў Расійскай Федэрацыі, і ў Беларусі, мы ўважліва азнаёміліся з методыкамі ацэнкі рыначнага кошту акцый еўрапейскіх кампаній, якія акцыяніраваліся ў газавай галіне, — наша ацэнка "Белтрансгазу" знаходзіцца на ўзроўні 4,5—5 млрд. долараў. Зыходзячы з гэтага, мы будзем адпаведным чынам весці перамоўны працэс з расійскім бокам", — сказаў С.Сідорскі.

## У.Валчкоў выбыў з барацьбы

Беларускі тэнісіст Уладзімір Валчкоў выбыў з барацьбы ў адзіночным разрадзе адкрытага чэмпіянату Англіі, які праходзіць на кортах Уімблдона. 24 чэрвеня ў першым крузе ён прайграў "пасеянаму" пад шостым нумарам леташняму фіналісту турніру аргенцінцу Давіду Налбандзяну — 5:7, 4:6, 2:6.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Рыбаахова дбае аб нашчадках

*На голым энтузіязме, амаль бясплатна, нясуць у гэтыя дні сваю цяжкую і небяспечную вахту супрацоўнікі Віцебскай міжраённай інспекцыі аховы рыбных рэсурсаў і паляўнічых відаў жывёлін.*

Рэйды па азёрах, рэках і лясах, дзе магчымы сустрэчы з браканьерамі, праводзяцца звычайна ў цёмны час сутак і цягнуцца па 12—17 гадзін. Вынікі гэтых дзяжурстваў, як правіла, вельмі непрыемныя для парушальнікаў правілаў рыбнай лоўлі, істотна папаўняюць казну, але ніяк не ўплываюць на дабрабыт інспектараў.

Наадварот, атрымліваецца, што дзяржава яшчэ і карае рыбаахову за яе ініцыятыўнасць і энтузіязм. Інспектарам нічога не даплачваюць за начную працу і за рызыку, якая пастаянна ідзе побач з імі: любы канфлікт з браканьерамі можа справакаваць напад апошніх на інспектараў.

У адрозненне ад міліцыянераў, якіх дзяржава бясплатна страхуе ад няшчасных выпадкаў, інспектары рыбааховы павінны страхавацца за ўласны кошт. Супрацоўнікам гэтай службы не выдаюць спецвопратку, інспекцыі пастаянна не хапае грошай на паліва для аўтамашын і маторных лодак.

За апошнія гады пры нязменным штаце рыбааховы аб'ём яе працы павялічыўся ўдвая. Цяпер інспектары абавязаны не толькі лавіць браканьераў, але і ахоўваць прыбярэжную зону вадаёмаў ад забруджвання, ахоўваць рэдкія віды раслін і г.д.

Зарплата ж інспектараў доўгі час не павышаецца і не залежыць ад эканамічнай эфектыўнасці іх рэйдаў. Калі раней значная доля штрафаў, спагнаных з браканьераў, накіроўвалася на фінансаванне інспекцыі, то цяпер усе гэтыя грошы забірае казна.

З пачатку сёлетняга лета супрацоўнікі Віцебскай міжраённай інспекцыі аховы рыбных рэсурсаў і паляўнічых відаў жывёлін выявілі 342 парушэнні правіл рыбалоўства, канфіскавалі больш як 300 сетак ды іншых прыстасаванняў для незаконнага лову рыбы, аштрафавалі парушальнікаў на 4 мільёны рублёў, прад'явілі браканьерам іскі аб замяшчэнні страт на суму звыш 500 тысяч рублёў. Самі ж інспектары за паспяховыя вынікі сваёй працы не атрымаюць нічога, акрамя звычайнай зарплаты.

Вось і атрымліваецца, што інспектары-энтузіясты дбаюць аб тым, каб рыба мелася на стале ў нашых нашчадкаў, а дзяржаве да гэтага няма справы.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Абрабавана начная крама

Ноччу 25 чэрвеня ў Багушэўскае аддзяленне міліцыі Сенненскага РАУС (Віцебская вобласць) пазваніў стралок Сенненскага аддзялення аховы і паведаміў, што на адзін з начных магазінаў у гарадскім пасёлку Багушэўск учынены ўзброены напад.

На месцы здарэння дзяжурны нарад аддзялення міліцыі і група затрымання аддзялення аховы ўстанавілі, што тры чалавекі, узброеныя, як мяркуецца, абрэзамі паляўнічых стрэльбаў, у масках, звязалі двух прадаўцоў, выкралі выручку ў памеры 1,8 мільёна рублёў і ўцяклі. Супрацоўнікі міліцыі на месцы злачынства затрымалі аднаго са зламыснікаў — 22-гадовага непрацуючага, раней судзімага. Астатнія падазроныя ўцяклі на аўтамашыне. Аднак праз чатыры гадзіны пасля абрабавання ў 05.55 супрацоўнікамі крымінальнага вышуку і ўчастковымі інспектарамі міліцыі Сенненскага РАУС паблізу ад вёскі Ярошкі былі затрыманы тры падазроныя. Гэта непрацуючыя, раней судзімыя жыхары Віцебска.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Знясуць дамы, размешчаныя ў межах сталічных зон адпачынку

Мінскі гарвыканкам прыняў рашэнне "Аб адсяленні і зносе індывідуальных сядзібных жылых дамоў па горадабудаўнічых умовах".

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Мінгарвыканкама, старыя дамы прыватнага сектара "не ўпісваюцца ў генеральны план Мінска з сумежнымі тэрыторыямі". Згодна з прынятым рашэннем, на працягу трох гадоў — з 2003 па 2006 — будуць знесены ўсе асобныя пабудовы ў межах ландшафтна-рэкрэацыйных зон "Парк імя 900-годдзя Мінска", "Парк Перамогі", "Чыжоўскае вадасховішча", "Парк Серабранка", водна-зялёных зон рэк Свіслач, Лошыца, Мышка, Сляпянскай сістэмы, а таксама ў раёне другога гарадскога кальца і вуліцы П.Глебкі.

Работы будуць ажыццяўляцца за кошт гарадскога бюджэту і сродкаў долевага ўдзелу ў развіцці гарадской інфраструктуры заказчыкаў (забудоўшчыкаў, інвестараў) і кампенсацыі ўсярэдненага па горадзе зносу жыллёвага фонду ў памеры 6 працэнтаў.

Грамадзянам, чые дамы трапілі пад знос, будзе прадастаўлена новае жыллё.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Бізнес на скрадзеных аўтамабілях

У Міністэрстве ўнутраных спраў Беларусі расследуецца крымінальная справа ў адносінах да кіраўнікоў арганізаванай групоўкі, што займалася аўтамабільным бізнесам.

Арганізатары групы, якія спецыялізаваліся на перапродажы выкрадзеных аўтамабіляў, былі затрыманыя ў чэрвені супрацоўнікамі ўпраўлення Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС па Гродзенскай вобласці.

Члены арганізацыі дзейнічалі сумесна з польскімі злачынцамі. Тыя кралі на тэрыторыі сваёй краіны аўтамабілі і за суму ад 600 да 1000 долараў там жа збывалі беларускім "партнёрам". Грамадзяне Беларусі падраблялі рэгістрацыйныя знакі, мытныя дэкларацыі і дакументы на аўтамашыны, пасля чаго пераганялі іх у Беларусь. Тут выкрадзеныя аўтамабілі рэалізоўваліся за ўжо значныя сумы асобам, якія пакуль не ўстаноўленыя.

Арыштаваным арганізатарам злачыннага бізнесу ставіцца ўчыненне 22 крадзяжоў аўтамабіляў і 13 фактаў падробкі ўлікова-рэгістрацыйных дакументаў на аўтатранспарт.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Буйная партыя безакцызных цыгарэт затрымана ў Брэсцкім раёне

Самая буйная за апошнія месяцы партыя безакцызных цыгарэт затрымана ў Брэсцкім раёне супрацоўнікамі Упраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС.

Мікрааўтобус "Мерседэс-Бэнц" супрацоўнікі міліцыі спынілі ў рамках спецаперацыі "Мяжа" ў вёсцы Скокі, непадалёк ад абласнога цэнтра. Падчас агляду высветлілася, што індывідуальны прадпрымальнік перавозіў 18.500 пачкаў цыгарэт імпартнай вытворчасці без акцызных марак Рэспублікі Беларусь і дакументаў, якія пацвярджаюць легальнасць іх увозу на тэрыторыю краіны. Кошт партыі цыгарэт ацэнены ў 19 мільёнаў рублёў.

Па рашэнні суда цыгарэты канфіскаваны, а прадпрымальнік аштрафаваны на суму 4 мільёны 200 тысяч рублёў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

# У разбитого корыта...

*В редакцию газеты "Народная воля"*

Здравствуйте!

Обратиться к Вашему изданию за помощью заставило не совсем хорошее положение в нашем хозяйстве, именуемом теперь РУСПП (Республиканское унитарное сельскохозяйственное производственное предприятие) "Птицефабрика "Новая заря". Находится оно в Мядельском районе Минской области. Еще не так давно, семь лет назад, птицефабрика "Заря коммунизма" работала стабильно, выполняла все планы. Но случилось следующее. Где-то на каком-то уровне решили: ввиду "вроде бы нормальной и стабильной" работы птицефабрики присоединить к ней колхоз "Осовский", хозяйство запущенное и убыточное.

Мнение рабочих и служащих коллектива птицефабрики никого не интересовало. А за присоединение к нам нового хозяйства на том собрании никто не поднял руку. Все были против!

Но колхоз к нам все-таки присоединили. В итоге получилось вроде бы неплохо для "тонущего" хозяйства. Пошли вверх надои, привесы, зато село в калошу птицеводство. Судя по всему, районное руководство не интересовало и не интересует по сегодняшний день положение дел в этой отрасли. Как иначе объяснить тот факт, что мало кто из районных управленцев к нам заглядывает, мало кто интересуется работой птичников, а тем более никого не интересует глубокий анализ экономического состояния отрасли. Если бы кто-то по-настоящему вник в наши дела, то в 2001 году не присоединили бы еще одно хозяйство: близлежащий совхоз "Кривичи" со всем имуществом и угодьями. На этот раз не то что голосования, даже собрания не было, то есть решили простой люд вообще не спрашивать и не беспокоить.

И вот что интересно — как смогли соединить три предприятия совсем разных форм хозяйствования: колхоз, птицефабрику и совхоз? Непонятный гибрид получился. Надо также заметить, что теперь посевные площади птицефабрики, благодаря "сводным братьям", составляют почти 1/3 районных земель. Одно дело присоединять "лежащие" хозяйства к таким сельскохозяйственным гигантам, как птицефабрика "Дружба" или "1-я Минская". А наша птицефабрика по сравнению с ними была просто дюймовочка. И такая тяжелая ноша ей не по силам.

Неужели нельзя было каким-нибудь другим способом протянуть руку помощи соседям? Теперь же мы сами, как говорится, оказались у разбитого корыта — у нас нищенская заработная плата, да и не получаем ее по 2—3 месяца, задерживается выплата детских пособий. Как жить? А теперь еще ходят слухи о сокращении численности птицы. Но ведь работали же нормально, получали хорошее яйцо и снабжали им Вилейку, Мядель, Молодечно, не отказывались от него и в городе Минске, вывозили даже в Россию. У нас есть свой колбасный и убойный цеха (и для птицы, и для крупного рогатого скота). Был налажен выпуск вкуснейшего майонеза. В данный момент все оборудование простаивает из-за отсутствия сырья. Довольно успешно работала фирменная торговля.

Убедительно просим Вас разобраться в наших проблемах, помочь вернуть наше былое положение. Ведь мы можем работать, мы хотим работать, и мы будем работать!

**С уважением и надеждой рабочие РУСПП "Птицефабрика "Новая заря":**

**Л.М.ЗЕНЬКО, И.В.ВЫТОПТОВА, Н.М.ИВАНЬКОВА, В.Н.МОНЧИК, А.Е.ШАПУНОВ, И.А.АНТОНОВИЧ, В.И.ЗВЕРЮГО, Т.С.БАЖЕЛКО, В.М.ХОТЯНОВИЧ, И.С.СВЯТОХО, Т.В.ГРИШКЕВИЧ, О.А.РАКЕЦКАЯ, Е.Н.ЛАКУЦЕВИЧ, В.М.ПУНЯ, А.М.ГУЛЬКО, Л.В.БОСТАН, А.И.ДУЧКО, В.К.КАМЕНЕЦКИЙ, Е.П.МАЦКО и многие другие.**



Фото IREX/ProMedia.

**ОТ РЕДАКЦИИ**

*Что можно сказать в дополнение к этому письму? Нас, журналистов "Народной воли", конечно, радует то, что люди видят в газете "Народная воля" защитника их прав, помощника и советчика. Но будем откровенны: газета не судья и не прокурор. Не может она подменять и исполнительную власть. Именно последняя (ее сегодня называет вертикалью) в ответе за то, что делается в стране. Развитие экономики, в том числе агропромышленного комплекса, — ее важнейшая забота. А потому, публикуя коллективное письмо работников "Новой зари", редакция адресует его в первую очередь Минскому облисполкому. Свое слово должно сказать и Министерство сельского хозяйства и продовольствия. Короче, уважаемые авторы письма, власти на то и власти, чтобы в государственном масштабе решать возникающие проблемы. А вы должны более активно, с использованием всех механизмов защищать свои права. В конце концов, ваша судьба прежде всего в ваших руках.*

